адна зямля





# Рэгіянальная газета

14 чэрвеня 2013 года
№ 24 (946)

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".







навіны рэгіёна

## Старшынёй Ашмянскага райвыканкама стаў Міраслаў Сарасек

**АШМЯНЫ.** Мяркуецца, што новага старшыню прадставяць работнікам Ашмянскага райвыканкама у чацвер, 13 чэрвеня. Прэзідэнт даў згоду на прызначэнне 10 чэрвеня, паведамляе сайт "Гродзенскай праўды". **Міраслаў Эдмундавіч Сарасек** нарадзіся ў вёсцы Ігнатовічы Бераставіцкага раёна ў 1973 годзе. У 1996 скончыў Беларускую сельгасакадэмію. У 2005 – Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце. Працаваў галоўным эканамістам фінаддзела Бераставіцкага райвыканкама, начальнікам аддзела эканомікі і ўліку. У 2000-2010 працаваў у камітэце па сельскай гаспадарцы і харчаванні Гродзенскага аблвыканкама. Ад 2010 года ўзначальваў камітэт эканомікі Гродзенскага аблвыканкама.

## Прапануюць паслугі "Гасцініцы выхаднога дня"

**МЯДЗЕЛ.** Новую паслугу прапануе тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. "Гасцініца выхаднога дня" прызначаная для сем'яў, дзе выхоўваюцца дзеці-інваліды і маладыя інваліды. "Падобную паслугу аказваюць ў некаторых раёнах, вырашылі паспрабаваць яе ўкараніць і мы", – паведаміла загадчыца аддзялення дзённага знаходжання для інвалідаў **Марына Чарняўская**. Яна будзе працаваць у першую і трэцюю суботы месяца ад 9 да 13 гадзін. На гэты час бацькі з усяго раёна могуць пакінуць сваіх сына ці дачку з інваліднасцю ўзростам ад 14 і да 31 года. Заяўку трэба падаваць за тры дні. Па інфармацыю можна звярнуцца па нумарах **8(01797) 53-4-32, 55-3-55**. Паслуга бясплатная. Аказваецца яна ў аддзяленні дзённага знаходжання для інвалідаў, якое размешчанае ў будынку Мядзельскай паліклінікі. Дзяцей бацькі павінны даставіць сюды самі. Падчас знаходжання ў "Гасцініцы выхаднога дня" будуць працаваць розныя гурткі, арганізаваны вольны час.

**Аддзел інфармацыі.**

# 23-гадовага віляйчаніна суд прыгаварыў да смерці

**ГРОДНА. У сераду абласны суд у Гродне вынес прысуд па гучнай справе аб забойстве ў адным з інтэрнатаў абласнога цэнтра двух маладых людзей. На такім пакаранні настойваў дзяржаўны абвінаваўца.**



Фота tisamsebeprid.ru

Маладзёна прыгаварылі да расстрэлу за забойства жонкі і яе сябра з асаблівай жорсткасцю.

Галоўнае, у чым абвінавачваўся падсудны, – гэта забойства двух асоб з асаблівай жорсткасцю.

– Арыентаванне суда на такое суровае пакаранне прадыктаванае абставінамі злачынства, – распавяла перад вынясеннем прыгавору сайту grodnonews.by **Людміла Герасіменка,** старшы пракурор аддзела пракуратуры Гродзенскай вобласці.

Трагедыя адбылася 5 жніўня 2012 года. Як раней паведамлялі СМІ, 23-гадовы жыхар Вілейкі з рэўнасці забіў у адной з кватэр маласямейнага інтэрната ў Гродне сваю жонку, жыхарку Жлобіна, і яе знаёмага гродзенца.

Труп апошняга злачынец расчляніў і выкінуў у смецевы бак, а галаву забраў з сабой. Менавіта з галавой у сумцы яго неўзабаве затрымалі праваахоўнікі ў Ваўкавыску.

Маладыя людзі пазнаёміліся ў Інтэрнэце, паведамляе БелТА, і цікавіліся акультызмам, аднак рытуальныя мэты забойства не пацвердзіліся.

Злачынства лічыцца "бытавым", хоць абставіны яго і напраўду шакуюць, але ў абвінавачанага прызнаная наяўнасць свядомасці.

Абласны суд прызнаў жыхара Вілейкі вінаватым па чатырох артыкулах: арт.139 ч. 2 пункты 1 і 6 (забойства дзвюх асоб, учыненае з асаблівай жорсткасцю); арт. 205 ч.1 (крадзеж); арт. 347 ч.1 (здзек над трупамі), арт. 378 (крадзеж асабістых дакументаў), і па сукупнасці злачынстваў вынес прысуд аб прымяненні выключнай меры пакарання – смяротнай кары.

Прыгавор пакуль не ўступіў у законную сілу. Па законе асуджаны мае права абскардзіць гэта рашэнне ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь.

Як паведамляе "Газета Слонімская", летась у Беларусі не было вынесена ніводнага смяротнага прыгавору.

**Паводле БелТА, grodnonews.by.**

# Пераможца зможа працаваць у Фінберга

## Магіляўчанка Валерыя Грыбусава атрымала Гран-пры Нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі

**МАЛАДЗЕЧНА. Чаму поп-музыка не мае шансаў у Маладзечне, фестываль доўжыцца два дні замест чатырох і хто стаў лепшым маладым выканаўцам Беларусі?**



Пераможца Валерыя Грыбусава з Магілёва.

На гэтыя пытанні адказаў першы дзень Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2013".

Трынаццаты па ліку конкурс маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні сабраў на сваёй сцэне спевакоў і спявачак з усіх куткоў Беларусі. Усяго выканаўцаў было 21.

Перамога сёлета накіравалася ў Магілёў. Менавіта гэты горад прадстаўляла ўладальніца Гран-пры **Валерыя Грыбусава**. На конкурсе доўгавалосая светларусая дзяўчына выканала дзве песні – "Чырвоная ружа" і "Спі, малы сакол".

– Я ў захапленні ад конкурсу і адчуваю сябе вельмі шчаслівай! – падзялілася пачуццямі васемнаццацігадовая Валерыя. – Да таго ж я атрымала афіцыйную прапанову працаваць ў акадэмічным аркестры Беларусі пад кіраўніцтвам **Міхаіла Фінберга**. Я хачу працаваць, хачу вучыцца і развівацца. Я змагар па натуры і не люблю стаяць на месцы. На рэпетыцыях я хвалявалася: для мяне гэта быў першы вопыт працы з аркестрам. Але потым, стоячы на сцэне, я адчувала яго падтрымку.

Перамога ў Валеры – першая для яе ў гэтым годзе. Раней маладая спявачка ўжо чатыры разы станавілася ўладальніцай Гран-пры міжнародных конкурсаў.

Першае месца сёлетняга конкурсу заняла **Наталля Кірэенка**, прадстаўніца Мінскай вобласці. Другое месца падзялілі паміж сабой **Андрэй Чабан** (Віцебская вобласць) і **Ксенія Жук** (Мінск). Трэцяе месца таксама засталося за двума спевакамі – **Андрэем Цямчыкам** (Брэсцкая вобласць) і **Ягорам Шаранковым** (Гомельская вобласць).

## "Папса ў Маладзечне не мае шансаў"

**Сваімі думкамі наконт чарговага фестывалю і культурнага жыцця Маладзечаншчыны падзяліўся Рыгор Сарока, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор аркестра Маладзечанскага каледжа імя М. К. Агінскага.**

– Я не згодны з тым, што фестываль доўжыцца толькі два дні, – кажа спадар Рыгор. – Калі б у нас было чатыры дні, як раней, кожная вобласць мела б магчымасць прадставіць сябе. Мы б запрашалі больш артыстаў з усіх краін былога СССР. Важна, каб на фестывалі часцей гучалі новыя імёны, а абойма пастаянных выканаўцаў мянялася.

На другі канцэртны дзень госці фестывалю пачулі галасы знакамітых выпускнікоў маладзечанскага музычнага каледжа.

Спецыяльна на музычнае свята з Фларэнцыі прыляцеў оперны спявак **Уладзімір Александровіч**, а з Масквы – тэнар **Валянцін Сухадолец**.

– У маладзечанцаў ужо выпрацаваўся цудоўны музычны густ, – заўважыў Рыгор Сарока. – Таму праекты, звязаныя з поп-музыкай, у нас проста не будуць мець поспеху. Маладзечне ўвогуле стаіць асабняком у культурным жыцці Беларусі. Што тут казаць – расійская опера літаральна нашпігаваная маладзечанцамі!

Гала-канцэрт беларускай эстраднай песні прайшоў ўвечары другога дня. Білеты на яго раскупілі ўжо за тыдзень да пачатку фестывалю.

Упершыню ў Маладзечне прагучала песня "Перапёлачка" Яўгена Глебава ў выкананні сімфанічнага аркестра. Слухачы пачулі яе ў нязвыклай джазавай апрацоўцы.

– Неаднаразова мы чулі незадаволенасць паэтаў, што на паэтычную частку свята мы выдзяляем толькі падворак, – кажа спадар Рыгор. – Сёлета паэтаў можна было пачуць і на фестывалі. Прадстаўляў іх **Леанід Дранько-Майсюк**. Для мяне асабіста паэзія – вельмі каштоўная частка культуры. Я хачу, каб яны ведалі, што ім адкрыты шлях і на галоўную сцэну фестывалю.



## "На фестываль у чатыры дні няма сродкаў"

**– Вынікі сённяшняга конкурсу проста выдатныя, – упэўнены Міхаіл Фінберг, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі.**

– Гэта меркаванне не толькі маё, але і прафесійнага журы. Мы нават і не ведалі, што ў нас ёсць такія таленты! Галоўнае, што ўсе ўдзельнікі маладыя, што ўсе яны павярнуліся тварам да беларускай песні.

Міхаіл Фінберг падзяліўся з карэспандэнтамі "РГ" сваім меркаваннем наконт таго, чаму дваццацігадовы юбілей фестывальнага руху ў Маладзечне адзначаецца не чатыры, а два дні.

– Для таго, каб зрабіць сёлетні фестываль даўжэйшым, патрэбныя вялікія грошы, – адзначыў ён. – Ужо даўно не было ў Маладзечне свята песні і паэзіі ў чатыры дні. Мы ставімся да тых сродкаў, што маем, вельмі ашчадна. Многія сучасныя выканаўцы, нават выступаючы пад фанаграму, патрабуюць неверагодных грошай. Што ж казаць пра такі фестываль! Рабіць некалькі канцэртаў у адзін-два дні вельмі цяжка. Але мы робім гэта, каб зрабіць расходы мінімальнымі – нават плату за тую ж гасцініцу.



**ФОТАРЭПАРТАЖ**

## Як фестывалілі ў Маладзечне



Беларусы ў нацыянальным адзенні танцавалі не толькі пад народную музыку, але і пад Майкла Джэксана.



"Горад майстроў" – выдатная магчымасць набыць падарункі і сабе, і знаёмым.



Фестывальны горад – сапраўднае свята адпачынку для дзяцей.



На фестываль людзі традыцыйна прыходзілі сем'ямі.

Старонку падрыхтавалі Аляксандра ПАРАХНЯ і Настасся РОЎДА (фота).

У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Куды пайшлі мільярды субсідый?

## Для маладзечанскага “Камунальніка” эканомія і ашчаднасць не сталі нормай жыцця

**МАЛАДЗЕЧНА. Да высновы аб безгаспадарлівасці камунальнікаў у Маладзечне прыйшлі кантралёры Камітэта дзяржкантролю па Мінскай вобласці пасля праверкі гэтага прадпрыемства.**

Кантралёрамі выяўлены факты нерацыянальнага выкарыстання паліўна-энергетычных рэсурсаў: прамыя страты цяпла ў кацельнях, няспраўнасць вентыляў і г.д.

На працягу 2011 года – 1 квартала гэтага года цеплавыя страты перавышалі нарматыўныя на 5-25%. Пры гэтым звышнарматыўныя страты беспадстаўна адносіліся на сабекошт паслуг. Гэта прывяло да незаконнага атрымання з бюджэту больш за шэсць мільярдаў рублёў субсідый.

Паліўна-энергетычнымі рэсурсамі карысталіся 45 арандатараў без узгодненых і зацверджаных ва ўстаноўленым парадку ўдзельных нормаў расходу.

Вынікам жа парушэнняў пры фарміраванні і прымяненні цэн (тарыфаў), завышэння артыкулаў выдаткаў стала тое, што рэальныя выдаткі былі завышаныя больш чым на 800 мільёнаў рублёў. Толькі па артыкуле “Паліва” завышэнне склала 350 мільёнаў рублёў, бо ў калькуляцыю была закладзеная завышаная цана на газ.

Неэфектыўна выкарыстоўваліся бюджэтныя і пазыковыя сродкі, адлічэнні грамадзян на капітальны рамонт жыллёвага фонду. Да гэтага часу незапатрабаваныя праекты на асвятленне вуліц, выробленыя ў 2011 годзе і аплачаныя за дзяржаўныя сродкі на суму ў 155,2 мільёна рублёў.

Былі пралікі з прыняццем упраўленчых рашэнняў. Пры існаванні праекта з красамоўнай назвай “Перавод кацельні в. Дубрава на газ” (былі выдзеленыя сродкі з інавацыйнага фонду ў 71 мільён рублёў) у той самы час у Дубраве была пабудаваная модульная кацельня за кошт абласнога бюджэту.

Знойдзеныя парушэнні заканадаўства пры вядзенні будаўнічай дзейнасці, вядзенні бухуліку, разглядзе зваротаў грамадзян, іншыя.

Па выніках праверкі ў бюджэт вернутыя незаконна атрыманыя 5,1 мільярда рублёў, выпраўленыя іншыя хібы. Рыхтуюцца матэрыялы для прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці вінаватых службовых асоб.

Матэрыялы праверкі накіраваныя ў праваахоўныя органы для дачы ім прававой ацэнкі.

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю.**

Фота vorotila.ru

Каб праверыць “Камунальнік”, спатрэбілася шмат лічыць.

| Курсы валют НБ РБ | 6.06 руб. | 13.06 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 8 720,00 | **8 720,00** |
| Еўра | 11 400,00 | **11 620,00** |
| Злоты | 272,50 | **2 724,74** |
| Літ | 3 298,53 | **3 357,53** |
| Расійскі рубель | 272,50 | **270,00** |
| Грыўня | 1 069,28 | **1 070,92** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8700/8750 | **8720/8760** |
| Еўра | 11380/11450 | **11570/11650** |

Цэны на рынку (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 5.06 Цана руб. | 12.06 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110900 | **113800** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45600 | **46400** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 58000 | **54300** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 85000 | **83000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 23500 | **26000** |
| **Шашлык**, паўфабрыкат, 1 кг | 53500 | **54900** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23500 | **23000** |
| **Селядзец**, 1 кг | 19800 | **28800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 8900 | **10100** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8300 | **9950** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 10000 | **9500** |
| **Алей** | 14900 | **14800** |
| **Маянэз**, 200 г | 5200 | **5200** |
| **Соус “Мінскі”**, 0,5 л | 7200 | **7800** |
| **Кава “Nescafe”**, 100 г | 28000 | **2800** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 8900 | **9300** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 10000 | **8500** |
| **Капуста**, 1 кг | 8500 | **8000** |
| **Морква**, 1 кг | 12000 | **11800** |
| **Буракі**, 1 кг | 7000 | **5000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20500 | **2000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 10000 | **12500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 29800 | **29800** |
| **Памідоры**, 1 кг | 15000 | **14500** |
| **Радыс, 1 кг** | 6000 | **3500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 8000 | **7000** |
| **Перац**, 1 кг | 45000 | **38000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 28000 | **26000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **11500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 7000 | **9500** |
| **Грушы**, 1 кг | 25000 | **25000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **60000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **16000** |
| **Сала**, 1 кг | 45000 | **45000** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | 15000 | **15000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННЕ

# Трактарыст насмерць пераехаў п'янага мужчыну і не заўважыў

**ВАЛОЖЫН. У пятніцу, 7 чэрвеня, каля вёскі Праўжалы Івянецкага сельсавета адбылося ДТЗ.**

Паехалі рабочыя на трактарах і спецыяльных каменеўборачных машынах убіраць камяні з поля. А такія машыны больш шырокія, чым звычайны трактар, і не могуць праехаць па вузкай дарозе, не заязджаючы на ўзбочыну.

Да таго ж на ўзбочыне растуць кусты. За адным з кустоў ляжаў чалавек. І кіроўцы не заўважылі яго з дарогі. Яны нават не зразумелі, што пераехалі яго.

Па дарозе назад яны ўбачылі, што ў кустах ляжыць чалавек. Рабочыя падумалі, што п'яны мужчына проста заснуў.

Толькі ўвечары мясцовыя жыхары звярнулі ўвагу на нерухомае цела. Як высветлілі пасля, мужчына загінуў на месцы ад таго, што каменеўборачная машына праехалася яму па галаве.

Па словах мясцовых жыхароў, яны бачылі, як мужчына набываў алкаголь у краме. У той дзень у яго быў выхадны.

Справа накіраваная ў Следчы камітэт.

Пра здарэнне паведаміў старшы дзяржаўтаінспектар Валожынскага райаддзела міліцыі **Андрэй Жудрык.**

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**
**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Фота agroinfo.by

Так выглядае трактар з каменеўборачнай машынай.

ЗАБОЙСТВА

## Забіў відэльцам з-за рэўнасці

**АШМЯНЫ. Жыхарка Жупранаў на досвітку 26 мая заўважыла ў двары суседняй хаты цела. Забітым аказаўся 45-гадовы гаспадар хаты.**

Жанчына выклікала міліцыю. Апытаўшы суседзяў, аператыўнікі і следчыя затрымалі 39-гадовага жыхара Жупранаў. Падазрэнне пала з-за яго рэўнасці.

Мужчына часта знаходзіў жонку ў суседа, дзе яна выпівала.

У той дзень жонка не была раніцай дома. Аднак яе не аказалася і ў хаце суседа, якога ён лічыў палюбоўнікам жонкі. Муж не паверыў, што жонкі ў суседа няма. Раз'юшыўся і некалькі разоў ударыў суседа ў твар і жывот завостраным канцом відэльца.

Зразумеўшы, што забіў, збег.

Узбуджаная крымінальная справа.

Падазраваны ўжо быў асуджаны ў Расіі.

**Паводле Сяргея ШАРШАНЕВІЧА, афіцыйнага прадстаўніка Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Сеў п'яны за руль – заплаці 30 мільёнаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Не прайшло і паўгода, як 26-гадоваму Юрыю вярнулі правы, і вось ён іх зноў пазбавіўся.**

Днём 29 красавіка маладзён п'яным сеў за руль аўтамабіля "Сітраэн-Ксантыя" і рушыў па вуліцы Гарадоцкай. Там яго затрымалі дзяржаўтаінспектары.

Суд прызначыў пакаранне: забараніў кіраваць транспартам пяць год, а таксама абавязаў выплаціць 300 базавых велічынь (30 мільёнаў рублёў).

У 2009 годзе за парушэнне правілаў дарожнага руху яго пазбавілі правоў кіроўцы на тры гады. Тады ж выплаціў штраф у пяць мільёнаў рублёў.

У лістападзе 2012 яму вярнулі правы.

Мужчына жанаты, мае малое дзіця. Працуе грузчыкам.

**Дзяніс ГІРЛОЎСКІ, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

## Чацвертая судзімасць за парнаграфію

**МАЛАДЗЕЧНА. Раніцай 19 студзеня Іван Б. у адной з кватэр на вуліцы Хмяльніцкага прадаў знаёмаму за 20 тысяч рублёў дыск.**

Відэазапісы і вокладку дыска эксперты прызналі парнаграфіяй.

Абвінавачаны прызнаў віну.

Суд прызначыў пакаранне: штраф у 150 базавых велічынь (15 мільёнаў рублёў).

Мужчына ўжо судзімы неаднойчы. У 2006 годзе яго пакаралі некалькімі суткамі грамадскай працы за распаўсюджанне парнаграфічных матэрыялаў.

У 2008 годзе, зноў жа за распаўсюджанне парнаграфіі, Іван атрымаў пакаранне, ужо два гады выпраўленчых работ. Суд таксама абавязаў яго выплачваць 20% заробку штомесяц на працягу гэтага часу.

У 2010 годзе за ўхіленне ад пакарання яго прыгаварылі да абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову.

Аднак у 2011 годзе Івана зноў асудзілі, і зноў за распаўсюджванне парнаграфіі. Ён выплаціў штраф – тры мільёны рублёў.

Асуджанаму 47 гадоў. Жанаты. Ураджэнец Расіі.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

СЛУЖБА 101

## Інспектар ДАІ выратаваў мужчыну ад смерці

**АШМЯНЫ. У аўторак, 11 чэрвеня, раніцай у вёсцы Замасцяны Ашмянскага раёна здарыўся пажар.**

– Пра тое, што з хаты ідзе дым, паведаміў выратавальнікам інспектар ДАІ, – кажа прэс-сакратар Гродзенскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях **Наталля Жывалеўская.**

На месца пажару выехалі выратавальнікі з Ашмянаў і Смаргоні.

Калі пажарныя прыехалі, мужчына ўжо быў на двары. Ён прачнуўся ад сігналу пажарнага апавяшчальніка і хутка выбег з хаты.

У выніку пажару згарэў дах дома, пашкоджаныя сцены і маёмасць.

Мужчыну 46 гадоў, нідзе не працуе. Суседзі сказалі, што вечарам ён выпіваў.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**


Фота 112.by

Ад пажару цалкам згарэў дах.

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Хлопчык на ровары сутыкнуўся з "Хундаем"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Днём 31 мая школьнік на ровары выехаў з двара на вуліцу Маўчанскага. Ён толькі закончыў 3"В" клас сярэдняй школы №2.

9-гадовы хлопчык быў без суправаджэння дарослых. Ён не прапусціў аўтамабіль, што ішоў па галоўнай дарозе злева, і ў выніку сутыкнення атрымаў удар галёнкі і раненне грудной клеткі. Хлопчыка шпіталізавалі ў дзіцячую бальніцу.

За рулём "Хундая" сядзеў 47-гадовы жыхар Вілейскага раёна. Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося па віне школьніка.

## ДАІ правярае выхлапныя газы

**МАЛАДЗЕЧНА.** Акцыю "Чыстае паветра" цягам чэрвеня ладзіць дзяржаўтаінспекцыя разам з ахоўвай прыроды.

ДАІ вымярае спецыяльным прыборам узровень вуглякіслага газу ў выхлапных газах. Будуць правярацца машыны як прыватных, так і дзяржаўных уладальнікаў.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага аддзела міліцыі.**

КРАДЗЯЖЫ

## Знік матацыкл з двара дома

**ВІЛЕЙКА. Каля дзвюх гадзін ночы 10 чэрвеня з двара дома ў Вілейцы ўкралі матацыкл "ММВЗ". Каштаваў ён адзін мільён 300 тысяч рублёў.**

Крадзеж хутка раскрылі. Следча-аператыўная група ўстанавіла, што злачынства ўчыніў 27-гадовы жыхар вёскі Іванцавічы. У адносінах да яго ўзбуджаная крымінальная справа за крадзеж. Матацыкл забралі.

**Па інфармацыі УУС аблвыканкама.**

## Укралі бензапілу з павільёна на міні-рынку

**ВІЛЕЙКА. 7 чэрвеня з павільёна на міні-рынку "Садружнасць" укралі бензапілу. Адбылося гэта каля паловы на дванаццатую.**

Індывідуальная прадпрымальніца патлумачыла, што на тры-чатыры хвіліны занялася пакупніцай, якая цікавілася змешвальнікам. У гэты момант мужчына, які разглядаў бензапілу, прыхапіў яе і знік. Злодзею на выгляд 40-50 год.

Каштавала бензапіла два мільёны сто тысяч рублёў. Узбуджаная крымінальная справа за крадзеж, паведаміў начальнік Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь **Мікалай Раманчук.**

**Аддзел інфармацыі.**

# З-за хмараў выпускнікі не маглі сустрэць світанак



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Выпускны баль у Маладзечне прайшоў 10 чэрвеня.



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Выпускнікі СШ№ 14, якія пайшлі ў першы клас у год адкрыцця школы.

Фотарэпартаж аб падзеі глядзіце на сайце rh.by.

АДУКАЦЫЯ

## На выпускным балі іграў аркестр з Вілейкі

**МЯДЗЕЛ. У аўторак, 11 чэрвеня, на плошчы імя Леніна адбыўся раённы выпускны баль. Тут сабраліся выпускнікі ўсіх навучальных устаноў Мядзельшчыны: усяго сёлета ў раёне іх 257.**

На свяце лепшыя вучні атрымалі медалі: уручыў іх старшыня райвыканкама **Ілля Шацько.** Адзінаццаць выпускнікоў атрымалі залатыя і два – сярэбраныя медалі. Адзначылі таксама бацькоў за належнае выхаванне дзяцей.

Упрыгожыла свята выступленне ўзорнага духавога аркестра Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў і ансамбля мажарэтак.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СУСЕДЗІ

## Літоўскія беларусы здалі экзамен па мове

**ВІЛЬНЯ. У аўторак дзевяць вучняў, выпускнікоў школ нацменшасцяў у Літве, здалі экзамен па роднай мове – беларускай.**

У аўторак у Літве выпускнікі школ нацменшасцяў здавалі экзамен па роднай мове – рускай, польскай і беларускай. Пра гэта паведаміў партал ru.delfi.lt.

Экзамен па рускай мове здавалі 590 выпускнікоў рускіх школ, па польскай – 1081, па беларускай – 9.

Экзамен па роднай мове складаецца з трох частак – вуснай (гэта частка экзамену здавалася выпускнікамі 1 красавіка – 17 мая), а таксама тэста на разуменне тэксту і сачынення.

Працягласць другой і трэцяй частак экзамену – 4 гадзіны. Вынікі будуць аб'яўленыя на працягу 10 дзён.

**Паводле ru.delfi.lt.**

НАВІНЫ СПОРТУ

## Каманда з Чысці абыграла віляйчан

**ВІЛЕЙКА. У чэмпіянаце Мінскай вобласці па футболе 9 чэрвеня адбыліся гульні чацвертага туру. "Вілія" (Вілейка) правяла матч у гасцях з "Забудовай-2007". Віляйчане саступілі камандзе з Чысці 2:4.**

– Першы тайм мы прайгралі 0:3, – расказаў гуляючы трэнер "Віліі" **Алег Гулевіч**. – У другім тайме схапянуліся, гульня пайшла. Лік скарацілі да мінімуму 2:3. Былі моманты, каб забіць і трэці гол, але не шанцавала. А за хвілін пяць да заканчэння матча ў нашы вароты прызначылі пенальці – і сапернікі забілі чацверты гол.

"Вілія" мае ў сваім актыве толькі адно ачко і па выніках чацвертага туру апусцілася на апошняе месца ў турнірнай табліцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ГІСТОРЫЯ

# Успаміны валожынца Мікалая Махнача

Нядаўна ў рэдакцыю прыйшло пісьмо ад **Мікалая Махнача**, у якім ён дзякуе рэдактару, калектыву "РГ" за тое, што друкуем яго ўспаміны. Цяпер Мікалай Аляксандравіч жыве ў ЗША, у штаце Масачусетс. Ён добра адчувае сябе і нядрэнна выглядае на свае 89 гадоў. Сёлета 19 снежня яму споўніцца 90 гадоў. Вось тэкст пісьма:

*"Паважаны спадар рэдактар Аляксандр Манцэвіч!*

*Я, Мікалай Махнач (валожынец), спяшу падзякаваць Вам за ліст, пісаны 11 лютага, які я атрымаў разам з пакункам-гасцінцам 25 лютага.*

*Я гэтай перасылкай вельмі ўсцешаны, за што вялікая падзяка і ўдзячнасць. Жывучы столькі гадоў на чужыне, кожная вестачка з Бацькаўшчыны – вельмі дарагая.*

*Шчыра вам дзякую, што ваша рэдакцыя зацікавілася маімі ўспамінамі і пачала друкаваць у вашай, маю надзею, вельмі пачытнай "Рэгіянальнай газеце".*

*Пры нагодзе дадам, што ў гэтых маіх успамінах няма абсалютна нічога выдуманага, хутчэй некаторыя шчагулы я абмінуў.*

*З сардэчным для вас віншаваннем і ўсім супрацоўнікам вашай газеты і жадаю развою ў вашай, такой важнай працы.*

*З глыбокай павагай і пашанай – **Мікалай Ал. Махнач**".*

*Працяг. Пачатак у №№6, 7, 9, 12, 14, 16, 18.*

**ВАЛОЖЫН. Успаміны валожынца Мікалая Махнача, які ў 17 гадоў, у 1939-м, пакінуў родныя мясціны і больш туды ўжо не вярнуўся. Цяпер ён жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі.**

Пераклад з польскай мовы зрабіла **Яўгенія Чаплінская** з вёскі Літва Маладзечанскага раёна, былая аднакласніца і тайная сімпатыя Мікалая Аляксандравіча.

### Палесціна

Аднойчы падчас наведвання кінатэатра я ў кіно спаткаў двух валожынцаў – Казіміра Яворскага, які жыў на Зялёным пляцы, і былога паліцыянта з Валожына з прозвішчам Залепа. Зразумела, яны мяне не пазналі, але я іх пазнаў, падышоў паразмаўляць, напамінаючы ім, адкуль ведаю. Падобных выпадкаў было шмат.

Наш узвод (плютон) размясцілі ў партовым месцы Хайфа. Тут заўсёды існавала небяспека, што нямецкія самалёты, якія знаходзіліся ў акупаванай Грэцыі, маглі нас закідаць бомбамі. Таму на ўсякі выпадак размясцілі два плютоны па разбраенні бомбаў – польскі і індыйскі.

Жылі побач з індусамі, якія былі досыць высокія, барадатыя і з вялікімі турбанамі на галовах з племені сікхаў. І хоць адны другіх не разумелі, але гулялі разам у футбол, валейбол.

### Хвароба звяла з валожынцам

У Хайфе захварэў шосты і ўжо апошні раз на малярыю. Завезлі мяне ў адзін з польскіх шпіталяў, дзе праляжаў 10 дзён. Праз пару дзён привезлі і паклалі побач са мной маладога жаўнера, хворага на трапічную малярыю, якая была больш небяспечная за маю. Ён быў без прытомнасці некалькі дзён, і сястрычка ад яго не адыходзіла.

Калі прыйшоў да сябе, пачалі размаўляць. Даведаўся, што жыў з сям'ёй у Валожынскім павеце ў Івянцы. Бацька яго быў капітанам у івянецкім батальёне Корпусу аховы пагранічча. Бацьку саветы арыштавалі, а яго з маткай вывезлі ў Казахстан. Пра бацьку яшчэ нічога не ведаў, бо каб быў у генерала Андэрса, то да гэтага часу яго знайшоў бы.

Падчас знаходжання ў Палесціне арганізоўваліся экскурсіі да святых месцаў, як Ерусалім, Бэтляем, Назарэт, наведалі Мёртвае мора, іншыя гістарычныя месцы. Гэтыя паездкі былі надзвычай цікавыя і павучальныя, і духоўна мацавалі нас.

### Ліван

Калі пасля хваробы цягніком вярнуўся ў Хайфу, то якраз брытанцы нас, "бамбоўцаў", накіроўвалі ў сталіцу Лівана, Бейрут, які таксама мог быць бамбардзіраваны нямецкай авіяцыяй з Грэцыі. Да налётаў не дайшло, затое мелі найпрыемнейшае месца пастою на Блізкім Усходзе.

Размясцілі нас на віле былога прэзідэнта горада Бейрута. Занялі партэр, аўдавелая гаспадыня жыла на другім паверсе. У двары быў невялікі басейн з фантанам і залатымі рыбкамі. Магістрат Бейрута выдаў загад, каб з жаўнераў, без розніцы нацыянальнасці, не браць плату за праезд на трамваі. Таму калі дазваляў час, ездзілі. У Ліване прабылі мы каля пяці тыдняў і вярнуліся назад у Палесціну.

Падчас знаходжання ў Палесціне ўзнікла вось якая сітуацыя з жаўнерамі яўрэйскага паходжання. Было іх у войску больш за 4000. Пазнаходзілі ў Палесціне сваіх "крэўных і знаёмых" і папрасілі камандзіраў, каб можна было іх адведаць з пропускам. Як паехалі, так і не вярнуліся, папросту дэзерціравалі. Дэзерціравала нешта 2/3 яўрэйскіх жаўнераў.

Спачатку польская жандармерыя ў супрацоўніцтве з брытанскай спрабавала іх знайсці, але палесцінскія яўрэі іх добра хавалі, таму мала каго злавілі. Пазнейшы прэм'ер Ізраіля Менахім Бегін быў адным з тых, хто "наведаў сваіх крэўных".

Пасля была Італія, затым Англія. Але перад тым, як паехаць у Англію, недзе ў сакавіку ці красавіку 1946 года, адбылося наступнае.



Фота sever.livejournal.com.

Армія Андэрса ў Іране.

### Вяртанне

Каля 700 салдат Другога корпусу заявілі пра сваё жаданне вярнуцца ў Польшчу. Зразумела, што камандаванне на чале з генералам Андэрсам не мела ні намеру, ні патрэбы, каб забараніць ім вяртацца. Хочуць вяртацца ў родны край да сваіх сем'яў – хай вяртаюцца, нават са зброяй, а мы мелі карабіны МК-4 канадскай вытворчасці.

Быў падрыхтаваны чыгуначны транспарт, які паехаў праз Паўночную Італію, Аўстрыю і Чэхаславакію ды пэўнага дня даехаў да чэшска-польскай мяжы. На граніцы салдатаў сустрэлі з вялікай помпай. А як: духавы аркестр, дзяўчаты ў нацыянальных строях, з кветкамі і пацалункамі.

Тых, хто прыехаў, часова пасялілі ў нейкім там лагеры. На другі дзень загадалі ім аддаць зброю, маўляў, таму што ў Польшчы ўсё адно няма адпаведных патронаў. А на трэці дзень вакол лагера паставілі ахову, і пачаліся допыты і арышты.

І як жа я і мае калегі, што засталіся ў Італіі, пра гэта даведаліся? Дык вось падчас той неразбярыхі чалавек з 20 уцяклі і пасля цяжкіх выпрабаванняў вярнуліся ў Італію. Яны прыйшлі ў штаб корпуса і ўсё расказалі. Так яны збілі ахвоту тым, хто яшчэ хацеў вяртацца.

### Англія

Напрыканцы 1946 і пачатку 1947 года ў Вялікабрытаніі было больш за 200 тысяч польскіх салдат: лётчыкаў, маракоў ды іншых спецыяльных груп. Польскія Узброеныя Сілы былі трэцяй пасля амерыканцаў і брытанцаў найвялікшай арміяй на Захадзе.

Мы, "бомбаўцы", мелі нашытыя на левым рукаве ніжэй за локаць спецыяльныя знакі нашай "піратэхнічнай спецыяльнасці". Гэтыя знакі брытанцам былі добра вядомыя, а таму мы хутка адчулі іх пахвалу і прызнанне. Нас называлі "спраўнымі польскімі хлопцамі" і дзякавалі за паслугу, часта частавалі цыгаркамі, алеем, півам. Нашы кантакты стрымліваліся толькі тым, што мы не ведалі англійскай мовы.

Англічане ўжо ведалі, што большасць польскіх салдат не хоча вяртацца на бацькаўшчыну, таму што камуністы захапілі там уладу, і людзі знаходзяцца пад ціскам і наглядам Савецкага Саюза з ягоным любімым правадыром Сталінам.

Тут за нашу небяспечную і цяжкую працу падвысілі порцыю харчу, хаця амаль восем гадоў брытанцы жылі па картачнай сістэме харчавання і сваіх, і чужых. І што асабліва ўразіла, дык гэта тое, што картачная сістэма была для ўсіх аднолькавая, ці то гэта містэр Сміт, Браўн альбо сэр Лістэр ці нехта іншы.

У Англіі наш узвод займаўся абясшкоджваннем бомбаў, якія не ўзарваліся. Мы шукалі і выкопвалі бомбы, якія важылі пераважна па 250 кілаграмаў. Былі і па 50, а адна ўвогуле была 500 кілаграмаў. Некаторыя з іх праляжалі ў зямлі па два-тры і больш гадоў. Каб іх дастаць, трэба было мець адпаведныя веды і спрыт.

Мы пачыналі звычайна капаць "шахту". Часта зямля абсоўвалася, то трэба было абшалёўваць сцены раскопу. Таксама ў некаторыя шурфы падцякала вада, тады мы выкарыстоўвалі бензінавыя помпы. Некаторыя з бомбаў вельмі глыбока ўвайшлі ў зямлю – аж да шасці-сямі метраў углыб.

### Князь Чартарыйскі

У Англіі надарыўся адзін цікавы выпадак. Быў у адным з батальёнаў сапраўдны нашчадак польскага арыстакратычнага роду князь Чартарыйскі. Ён меў званне ўзводны падхарунжы, ведаў чатыры ці пяць моў, меў дзесяці ў Францыі маёмасць і меў навіта туды пасля звальнення з войска збіраўся паехаць. Быў несумненна адукаваным ягамосцем, але фізічнага выгляду не найлепшага. Сам ён усведамляў сваю сітуацыю і не ўтойваў, што прычынай таму былі шлюбныя сувязі паміж блізкімі родзічамі.

Працяг будзе.

**Мікалай МАХНАЧ, ЗША.**

КАЛЯНДАР

**14 чэрвеня.** 25 гадоў адраджэння прадпрымальніцтва на Беларусі.

***

Сусветны дзень донара крыві.

***

**15 чэрвеня.** 90 гадоў з дня нараджэння Лідзіі Галушкінай (1923 – 2009), спявачкі, педагога, народнай артысткі Беларусі. У 1951–1981 гадах – салістка Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Валодала яркім, пругожым голасам (мецца-сапрана), вялікай эмацыйнасцю, здольнасцю да сцэнічнага пераўвасаблення.

***

**75 гадоў** з дня нараджэння Анатоля Лабанка (1938), вучонага ў галіне мікрабіялогіі, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

***

**18 чэрвеня.** 10 гадоў таму ў Ялце, на гарадскіх могілках, устаноўлены новы помнік Максіму Багдановічу.

***

**100 гадоў** з дня нараджэння Фёдара Куляшова (1913–1993), беларускага літаратуразнаўца і крытыка. Даследаваў сучасную беларускую літаратуру. Аўтар кнігі "Міхась Лынькоў".

***

**19 чэрвеня.** 85 гадоў з дня нараджэння Васіля Ганчарэнкі (1928 – 1983), беларускага спевака, заслужанага артыста Беларусі.

***



**20 чэрвеня.** 85 гадоў з дня нараджэння (1928) Гаўрылы Вашчанкі, манументаліста, жывапісца, народнага мастака Беларусі.

***

**65 гадоў** з часу адкрыцця (1948) у вёсцы Вязынка Маладзечанскага раёна філіяла Літаратурнага музея Янкі Купалы.

***

**170 гадоў** з дня нараджэння Фёдара Стравінскага (1843–1902), спевака. Скончыў гімназію ў Мазыры, Пецярбургскую кансерваторыю. З 1873 года – саліст Кіеўскага, а з 1876 года – Марыінскага оперных тэатраў. Валодаў моцным голасам (бас). Яго выканальніцкая дзейнасць стала значным этапам у гісторыі рэалістычнага опернага мастацтва.

Падрыхтавала **Марыя БЕРАСНЕВА.**

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА** могуць размясціць аб’яву ў “Рэгіянальнай газеце”, не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.

**☎166**

| Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну: | |
|---|---|
| Астравец | - 01591, |
| Ашмяны | - 01593, |
| Валожын | - 01772, |
| Вілейка | - 01771, |
| Маладзечна | - 0176, |
| Мядзел | - 01797, |
| Смаргонь | - 01592. |

## ВІНШАВАНКА

**З 55-годдзем Алену ШУЛЬЦ з Вілейкі!**

Жадаем поспехаў і вынікаў у працы, неабмежаваных магчымасцяў, здароўя, сямейнага дабрабыту і шчасця!

*Как женщина, ты очень хороша,*
*Как друг, проверена годами,*
*Великолепная хозяйка и жена,*
*Мы рады, что сейчас ты с нами.*
*Пятьдесят плюс пять годков*
*Твой сегодня праздник!*
*Много слов сказать готовы*
*В честь твою прекрасных!*
*Пусть здоровье никогда*
*В жизни не подводит,*
*И на долгие года*
*Пусть печаль уходит!*

**Родныя, сябры.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-100, 1984 г.в., добры стан, бензін. Т. (8-029) 5882238, (8-029) 2620926.

• Аўдзі-80, 1986 г.в., 1,8 Б, пераходная. Т. (8-029) 2514346.*

• ГАЗ 3302 (газэль) бартавы, тэнт. Т. (8-029) 5509642.

• ГАЗ 53 (дызель) бартавы. Абмен. Т. (8-029) 5509642.

• ГАЗ-66 самазвал. Т. (8-029) 6028263.

• Дэу Нубіра, 1998 г.в., 1,6 Б, універсал, 3900 у.а., торг. Т. (8-033) 3144181.

• Кія-Карнівал, 2002 г.в., 2,9 дызель. Цана і расход паліва прыемна здзівяць. Т. (8-029) 6256499, (8-033) 6020264, (8-029) 3599460.*

• МАЗ 4370 тэнт ці абмяняю на Т-4 пасажырскі. Т. (8-029) 6434876.*

• Мазда 626, 1993 г.в., 2,0 дызель, колер бэжавы, цана дагаворная. Т. (8-029) 8427224, (8-029) 9337663.*

• Мерседэс Віта Трэнд, 2000 г.в., 2,2 CDI, чорны перламутр, сядзенні трансформер, столік, абвесы, кенгуратнік, ёсць усё, акрамя скуры, выдатны стан, укладанняў не патрабуе, 13700 у.а. Т. МТС (8-029) 7783755.

• Опель Вектра, 10.1998 г.в., 1,8 Б, універсал, 148000 км, чорны металік, камп’ютар, кандыцыянер, эл/люк, фаркоп, выдатны стан, 5900 у.а. Т. (8-029) 1930416.*

• Опель Зафіра, 2008 г.в., 1,7 ТД, мінівэн, серабрысты. Т. (8-029) 6850358.

• Рэно 19 Шамада, 1990 г.в., 1,4 Б па запчастках. Т. (8-033) 3363343.*

• Рэно Кліа, 2006 г.в., 1,6 бензін, прабег 89000, сіні, 9000 у.а. Т. Вэлком (8-029) 3913937, МТС (8-033) 6225424.*

• Рэно Майстар, 2002 г.в., 1+8 месцаў, сіні, салон велюр, шклопакеты, два ацяпляльнікі. Т. (8-029) 7614541.

• Рэно Сцэнік, 1999 г.в., 1,9 ДТІ, на запчасткі. Т. Вэлком (8-044) 6653394.*

• Сітраэн Берлінга, 2001 г.в., на запчасткі. Т. МТС (8-033) 6653394.*

• Сузукі Балена, 2000 г.в., 1,9 турбадызель, цёмна-зялёны седан, 4100 у.а., Мядзел. Т. (8-044) 7417185, (8-029) 9412814.*

• Таёта Авенсіс, 2002 г.в., 2,0 ТД, серабрысты металік, усе опцыі, скура, 8500 у.а. Т. (8-029) 2351473.

• Тайота Ярыс, 2003 г.в., 1,4 ТД. Т. (8-029) 3672477.*

• Тайота Ярыс, 2008 г.в., хэтчбэк, 1,3 Б, 10300 у.а. Т. (8-044) 4934541.

• ФВ Пасат В3, 1989 г.в., 1,6 ТДІ, белы, добры стан, 3400 у.а., торг, Вілейка. Т. (8-029) 2617335.

• ФВ Пасат Б5, 2002 г.в., 1,9 ТДІ, 9 000 у.а., Мядзел. Т. (8-029) 6744672.

• Дэу Ланас, 1998 г.в., выдатны стан, 3750 у.а., Вілейка. Т. (8-029) 7713962.

• Форд Гэлаксі, 1996 г.в., 2,0 і, газ-бензін, цёмна-сіні, кандыцыянер, г/у, ц/з, фаркоп, серваруль, 7400 у.а. Т. Вэлком (8-029) 3316898.

• Форд Транзіт, 2001 г.в. Т. (8-029) 6181186.*

• Хонда Цівік, 1995 г.в., цёмна-сіні металік, хэтчбэк, 1500 куб.см, бензін, добры стан, цана дагаворная. Т. (8-029) 3160331.

• Гума новая NOKIAN 235/70/16, фінка, 2 шт., 300 еўра. Т. (8-029) 2542117.*

• Шыны 255/65/16 “Мішэлін”, б/у, дыскі металічныя Р 16 5х112, літыя Р 15 4х100, б/у. Т. (8-029) 7046266.*

• Запчасткі да а/м ФВ Джэта, 1,6 бензін. Т. (8-029) 6809579.*

• Запчасткі да Рэно-19, 1990 г.в., 1,9 Д. Т. (8-029) 7792477.*

• Запчасткі да Форд Эскорт, 1991-1994 гг., 1,8Д. Т. (8-044) 7387127.*

• **ЗАПЧАСТКІ ОПЕЛЬ ВЕКТРА А, 1992 Г.В., 2,0 БЕНЗІН.** Т. (8-029) 6028263.

• **ЗАПЧАСТКІ ФОРД СКОРПІА, 1988 Г.В., 2,0 БЕНЗІН.** Т. (8-029) 6028263.

• Па запчастках: ФВ G-4, 2000 г.в., 1,9 ТДІ, Аўдзі А-6, 2000 г.в., 2,7 БТ, АКПП, ФВ Т5, 2004 г.в., 1,9 ТД, МКПП, “МВ Vito”, 2006 г.в., 2,2 СДІ, МКПП, “Suzuki Grand Vitara”, 2000 г.в., 2,5 Б, МКПП, “Таёта Камры”, 2003 г.в., 2,4 S, АКПП, “Honda CR-V”, 2007 г.в., 2,2 ТД, МКПП, поўны прывод, “Гранд Чарокі”, 2000 г.в., 4,7, АКПП. ІП Яроўскі В.І. УНП 591801368. Т. (8-029) 2658561, (8-044) 7728292.*

### КУПЛЮ

• А/м (іншамарку) не старэй 1990 г.в., да 5000 у.а. Т. Вэлком (8-044) 4871003.*

• А/м грузавы, мікрааўтобус, сельгастэхніку. Т. (8-029) 5509642.*

• А/м да 3500 у.а. Т. МТС (8-033) 3711742.*

• А/м любы, з любымі няспраўнасцямі, забяру сам. Т. Вэлком (8-029) 9164963.*

• **А/М** на хаду, можна з дэфектамі. Т. (8-029) 9961242.*

• А/м у любым стане, можна аварыйны ці на запчасткі, тэрмінова. Т. (8-029) 7088846.*

• А/м у любым стане, можна на запчасткі. Т. МТС (8-029) 7703397.

• **А/М У ЛЮБЫМ СТАНЕ. ДАРАГА! Т. (8-044) 7601222.**

• А/м у любым стане. Т. Вэлком (8-029) 9961242, МТС (8-029) 7918210.*

• А/м у любым тэхнічным стане на хаду, Мінскі р-н. Т. (8-029) 1231245.*

• Будку ізатэрму на Газэль. Т. 772330, (8-033) 6650561.*

• Іншамарку ў любым стане. Т. МТС (8-029) 5036715, Вэлком (8-029) 6036715.*

• ФВ Т-4 пасажырскі аварыйны ці з дэфектам. Т. (8-029) 6434876.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 6 мкр., 1 паверх 5-павярховага панэльнага дома, 38,1/17,5/8,8, санвузел раздзельны, кладоўка 1,8, падвал. Т. (8-0176) 74-48-83, Вэлком (8-029) 3671871.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Турэц-Баярах, Маладзечанскі р-н, 5 паверх, санвузел раздзельны, балкона няма, еўрарамонт, 12500 у.а. Т. (8-029) 2713871.*

• 1-пакаёвая кватэра, вул.В.Гасцінец 72-б, 5/5паверх, 30,/19,6/5,9 кв.м, с/в сумешчаны, балкон, рамонт, 29000 у.а. Т. Вэлком (8-029) 3405255.*

• 2-пакаёвая кватэра па вул.Ф.Скарыны, цэгла, 1/5, 48,4/29,7/7. Магчымы вывад з жылога фонду. Без пасрэднікаў. Т. 707169, МТС (8-029) 5553115.*

• 2-пакаёвая кватэра па вул.Ясінскага, 9, агульная плошча 40,9 кв.м. Т. (8-029) 6553816.*

• 2-пакаёвая кватэра ў 4-кватэрным доме з частковымі выгодамі ў Вілейцы, вул.Маркава, цэнтр. Вада ў доме, шклопакеты, агароджа –металапрофіль, хлеў, 5 сотак, ацяпленне пячное, 12500 у.а. Т. (8-029) 2713871.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Незалежнасці, 47,2 кв.м, 2-паверх, 35000 у.а. Т. (8-029) 7482397.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Талстога, патрабуецца рамонт, 27000 у.а. Т. (8-01771) 44224, (8-044) 4611424.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Гагарына, 1 паверх, 53,92/35,65/7,9, с/в паасобны, 34000 у.а. Т. (8-029) 2550123.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Гагарына. Т. МТС (8-033) 3209338.

• 3-пакаёвая кватэра ў цагляным доме, 5-паверх у р-не Зеніт. Т. (8-029) 2713904.*

• 3-пакаёвая кватэра, 5/5, 8,8х39х61,3, добры рамонт, 2 шафы-купэ, магчымы абмен на дом. Т. (8-029) 5644936.*

• 3-пакаёвая кватэра, вул.Камарова, 9. Т. (8-029) 7614541, (8-01771) 55154.

• 4-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Кастрычніцкая, 1/5 П, 64,4/46,6/7,4, балкон, падвал. Т. (8-029) 5663432.

• Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, яма, падлога драўляная, падшытая столь. Т. (8-029) 5537683.*

• Гараж у ГБК-2, памер 6х6 м, вышыня варот 2,45 м, яма. Т. (8-029) 5671339.

• Гараж у ГБК-3, вул.Незалежнасці. Т. (8-029) 5041943.

• Гараж у ГК-1 у Вілейцы, цэгла, перакрыцце ж/б, ацяпленне, 21,7 кв.м, падвал 21 кв.м. Т. (8-029) 7004377.*

• 2-узроўневы дом у Вілейцы, 150 кв.м, Макаўе, магчымы абмен на кватэру. Т. (8-01771) 35457.*

• Дача з печкай, мэбляй, калонкай, лазня, сад, лес, Вілія, у чыстым маляўнічым месцы. Т. (8-029) 8008906.

• Дача ў в.Прынта, 15 км ад Вілейкі, пячное ацяпленне, цагляны хлеў, калодзеж, лес, побач рака. Т. (8-029) 8597408.

• Дача ў в.Прынта, 15 км ад Вілейкі, ацяпленне пячное, 7 сотак, калодзеж, лес, побач рэчка, лес, нядорага. Т. (8-033) 3140646.*

• Дом у Вілейскім р-не, 25 сотак зямлі, рэчка 50 м ад дома, лес побач, 14000 у.а., торг. Т. (8-029) 3601179, 80447281605.

• Участак у Вілейцы, 13 сотак, раён вадасховішча, зруб 6х6. Т. (8-029) 2776190.

• Дом у а/г Жодзішкі, Смаргонскі р-н, усе выгоды. Т. (8-033) 6574515.

• Дом у аграгарадку Лебедзева. Т. 720316, МТС 8730600.*

• Дом у в.Ганькавічы, Валожынскі р-н. Т. (8-0176) 755676, (8-029) 7630094.

• Дом у в.Грыцукі, Вілейскі р-н, 4000 у.а. Т. (8-029) 5608451.*

• Дом у в.Івонцавічы, Вілейскі р-н. Т. (8-033) 3137628.

• Дом у в.Літва, дом 112, Маладзечанскі р-н (65,2 кв.м, 0,23 га). Т. (8-029) 9543932.*

• Дом у в.Мароські, недалёка лес, побач вадаём, 6000 у.а. Т. 720002.*

• Дом у в.Прынта, Вілейскі р-н, побач рака, лес. Участак 0,17 га. Т. (8-029) 7666137, (8-029) 7029649.*

• Дом у в.Трыгузі, 25 сотак, драўляны, трухлявы, калодзеж, хлеў, сад, склеп, 15 км ад Маладзечна, 2500 у.а. Т. МТС 2631449.*

• Дом у в.Хоўхлава, вул.Новая, 37, нядорага. Т. Вэлком (8-029) 3274695, (8-01772) 54454.*

• Дом у Вілейцы з гаспабудовамі. Т. (8-033) 3020274.*

• Дом у Вілейцы, цэнтр. Т. (8-033) 3020274.*

• Дом у г.п.Крывічы, Мядзельскі р-н, 130 м да ракі. У пасёлку школа, дзіцячы садок, музычная школа, бальніца, банк, 5 магазінаў, чыгуначная станцыя. Плошча дома 78 кв.м, участка 17 сотак. Цана 6500 у.а. Т. (8-029) 6776711.*

• Дом у Маладзечне, вул.Някрасава, 61. Газ, вада, цэнтральная каналізацыя. Т. (8-029) 7095491.*

• Дом-дача ў Мядзеле з гаспабудовамі, водаправод, 300 метраў ад возера Мястра. Т. МТС (8-029) 5072223.

• Катэдж у Смаргоні без унутранай аддзелкі, 167 кв.м, святло, вада, газ побач, металачарапіца, шклопакеты, агароджа з каменю, гаспабудовы, сад. Вадаём, 900 м, 45000 у.а. Т. (8-029) 6353589, (8-029) 6080883.*

• Гандлёвы павільён у Вілейцы, вул.Гагарына, р-н Зеніт, насупраць крамы № 26, ці здам у арэнду. Т. (8-029) 5314310.*

• Катэдж у Вілейцы з усімі выгодамі. Т. (8-029) 1331698, (8-029) 7668419, (8-029) 7747571.*

• Паўдома ў Вілейцы, нядорага. Т. (8-029) 3672399.*

• Паўдома ў Вілейцы, плошча 29,08 кв.м, участак 3,1 соткі, 8000 у.а. Т. МТС (8-029) 7032675, (8-01771) 54118.*

• Участак з нулявым цыклам і з добрым праектам 1-павярховага дома ў Маладзечне (р-н в.Рагазы), 12,3 сотак, 28000 у.а. Т. (8-029) 6767056.*

• Участак зямельны, 0,24 га з трухлявым домам у в.Каралеўцы, Вілейскі р-н (рака Нарач). Т. (8-029) 1171583.

• Участак у в.Насілава, Маладзечанскі р-н, 13,5 соткі, частковы фундамент, пабудова, 220-380 Вольт, цэнтральная вада заведзеная на ўчастак, газ па вуліцы, 17000 у.а., торг. Т. (8-029) 1429999.*

• **УЧАСТАК** у в.Савіна, Вілейскі р-н. Т. (8-029) 6028263.*

• Участак, 12 сотак, са срубам 5х5, прыгарад г.Вілейкі. Т. (8-029) 6672413, (8-029) 6214948, (8-01771) 22772.*

### КУПЛЮ

• Дом, дачу, любы стан. Т. (8-033) 6318715.*

• **УЧАСТАК, ЗРУБ НА ВЫВАЗ, ДОМ. (8-044) 7023336.***

• 1-2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, цэнтр, з выгодамі, наяўнасць балкона абавязкова. Т. (8-029) 8577899.*

### МЯНЯЮ

• 2-пакаёвую кватэру, пакоі асобныя, лоджыя, на 1-пакаёвую кватэру (2-3 паверх) з вашай даплатай. Т. (8-0176) 772980.

• 3-пакаёвую кватэру на 2-пакаёвую з даплатай. Т. МТС (8-029) 5012601.*

### ЗДАМ



• Кватэру на суткі, гадзіны ў Маладзечне, цэнтр. Хуткае засяленне, канфідэнцыйна. Камфорт, утульнасць, акуратна. Камандзіраваным справаздачныя дакументы. ІП Гардовіч А.А. УНП 691506689. Т. Лайф (8-025) 7891016.*

• Памяшканне ў арэнду пад краму, офіс, цэнтр Вілейкі. Т. (8-01771) 55390.*

### НАЙМУ

• 1-2-3-пакаёвую кватэру для арганізацыі на працяглы тэрмін у Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5740954.*

• 1-2-3-пакаёвую кватэру на працяглы тэрмін у Маладзечне, з добрым рамонтам і наяўнасцю мэблі. Т. Лайф (8-025) 7516297.*



## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап’янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце RH.by*

• 1-2-пакаёвую кватэру ў цэнтры Маладзечна для маладой сям'і (ёсць дзіця), пажадана са свежым рамонтам, на доўгі час. Добрыя гаспадары, гарантуем чысціню і своечасовую аплату. Т. (8-029) 5777020, (8-033) 6612108.*



# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• **"МАДЛЕН"** – новае паступленне еўрапейскіх мадэляў. Маладзечна, вул. Валынца, 12, 2-паверх. ІП Кароль Т. Н. УНП 690494373. Т. (8-029) 3611420.*

• **"МІЛЭДЗІ"** – вясельныя ўбранні. Вялікі выбар. Маладзечна, вул. Віленская, 12 (атэльe "Бярозка"). ІП Казлоўская Т.І. УНП 690154367. Т. (8-0176) 777382, (8-029) 3677382, (8-029) 2727483.*

• **"НАДЗЕЯ" –** вясельныя, дзіцячыя ўбранні. Маладзечна, ГАЦ "Модуль", месца №63. ІП Ліпніцкая Г. С. УНП 600328327. Т. (8-029) 3024418.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК.** ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• Вясельная, сямейная, дзіцячая фотаздымка. Т. (8-033) 6342820. www.safonova.org.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **IVECO**, бартавы, тэнтаваны, да 4 т, 23 куб.м, усе віды загрузак, РБ, РФ. ІП Хруцкі А.П. УНП 691297090. Т. (8-033) 6666687, (8-029) 5777020.*

• Грузаперавозкі па РБ, Зіл "Бычок", тэнтавы, грузападымальнасць 5 тон. ІП Сыракваш Н.Н. УНП 691169301. Т. (8-029) 9476004.

• МАЗ, самазвал, 10 т; пясок, жвір, ПГС, раствор, бетон, вываз смецця. ІП Сушко А.А. УНП 690690644. Т. (8-029) 3385358, (8-029) 7588449.*

• Самазвалы МАЗ 5516 – 20 тон, МАЗ 5551 - 10 тон (пясок, гравій, шчэбень, смецце, вываз снегу), мэблевы фургон Мерседэс 410 - 2 тоны, 16 куб.м. ТАА "МатэкПро". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• Рэно Маскот, 3,5 т., 20м3, 4,5мх2,2х2,2, усе віды загрузкі, ёсць санітарны пашпарт. ІП Маляўка А.В. УНП 691502867. Т. (8-029) 2525329, (8-029) 6925329.*

• Франтальны пагрузчык ТО-18, коўш 2 куб.м (планіроўка, капанне катлаванаў, пагрузка смецця, снегу) і кранавая страла г/п да 2 тон (разгрузка блокаў, цэглы, абсталявання). Экскаватар ЮМЗ (каўшы 40 і 60 см). Міні-экскаватар УСВ (глыбіня да 2,7 м). ТАА "МатэкПро". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• Фіят, 1,5 т. Горад, раён, РБ. ІП Шафаловіч Д.С. УНП 690534457. Т. (8-029) 5691813.*

• Спрынтар максібаза да 1,5 т. ІП Рудкевіч Н.В. УНП 690688776. Т. (8-029) 8648384.*

• Аўтагрузаперавозкі па РБ, РФ да 2,5 т, а/м "Івека-Тэнт", д.440, ш 1,95, в 2,20. ІП Лагуцік А.Ю. УНП 591802058. Т. (8-029) 9985399, (8-033) 6909609.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **АБІТУРЫЕНТ! МАТЭМАТЫКА**: Падрыхтоўка да ЦТ. Заняткі з вучнямі сярэдняга звяна. Якасць падрыхтоўкі высокая. Кантрольныя работы: вышэйшая матэматыка, чарчэнне, тэхнічныя, эканамічныя, гуманітарныя дысцыпліны. ІП Каляснікаў В.Ф. УНП 690418425. Т. МТС (8-029) 5586664, Вэлком (8-029) 6325077.*

• **АЎТАР-ВЯДУЧАЯ** з Мінска правядзе любое свята цікава, весела, з густам. Конкурсы, розыгрышы, "жывая" музыка, дыскатэка па-сапраўднаму пацешаць і здзівяць вас. ІП Мельнікава Л.Н. УНП 391165812. Т. (8-029) 7194118.

• Бурэнне свідравін на ваду, палі, 125 мм, 50 мм, дагавор, гарантыя 5 гадоў, сертыфікат якасці матэрыялаў. Глыбінная помпа і гідрафор, палі 250 мм, глыбіня 2 метры, падмуркі, платы і інш. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. (8-029) 7860317, (8-029) 8817111.*

• **ДАХ, УЦЯПЛЕННЕ, АДДЗЕЛКА** ўнутраная, вонкавая. Вагонка. Сайдынг. Блок- хаўс. ІП Ходаль В.А. УНП 391074376. Т. (8-029) 9920647, (8-029) 8910834.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• **ЗАТОЧКА ІНСТРУМЕНТУ**, ланцугоў бензапіл, дыскавых піл, свердлаў, нажовак па дрэве і г.д. Вул.Кастрычніцкая, ларок "Выраб ключоў". ПП "Майстарключ". УНП 190923089. Т. (8-029) 3731067, (8-029) 3811905.*

• Земляныя паслугі міні-экскаватара JCB 803 PLUS (траншэі, катлаван пад газ, водаправод, падмуркі), глыбіня 2,7 м. ІП Матусевіч Ю.Н. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

• Кандыцыянеры: рамонт, запраўка, дыягностыка. ІП Усаў Д.А. УНП 691509489. Т. (8-029) 7042405.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, трамбовачныя машыны, бурэнне свідравін. ІП Кісель А.П. УНП 691507139. Т. (8-029) 9098949.*

• Міні-экскаватар. ІП Сурынт Е.Ю. УНП 691508985. Т. (8-025) 5250098.*

• Музычнае суправаджэнне ўрачыстасцяў. Т. (8-029) 7825777.*

• Прафесійныя электрамантажныя работы ўсіх відаў пад ключ. Аплата любая. Т. (8-033) 3836929, (8-029) 7521777.*

• **РАМОНТ ТУРБІН**. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-044) 7639480, (8-029) 7639480.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. (8-0176) 772328, (8-029) 2710273, (8-044) 5559347.*

• Распілоўка лесу з выездам да заказчыка (дошка, брус, кроквенная сістэма). ІП Гардзей А.У. УНП 591700580. Т. (8-029) 6141320, (8-029) 9439027.*

• Тратуарная плітка, борт тратуарны, накрыўка на слуп, дэкаратыўны камень. У асартыменце. ІП Юрэвіч В.В. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382. *

• Устаноўка, зборка, рамонт корпуснай мэблі ў офісах і кватэрах. Даступныя цэны. ПУП "БенаРыка". УНП 691503914. Т. (8-033) 3908204, (8-029) 3876197.*

• Устаноўка: вокны, дзверы, вітражы ПВХ. Нізкія цэны. Гарантыя. Якасць. ІП Качэрга Ю.В. УНП 691406627. Т. Вэлком (8-044) 7701125, (8-029) 3049017.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

■ АЎТО

## Прайшла выстава машын з Еўра-4

**МАЛАДЗЕЧНА. На станцы каля Палаца культуры 12 чэрвеня прадэманстравалі аўтамабілі з экалагічным стандартам Еўра-4.**

Выстава прайшла ў межах штогадовага аўтапрабегу беларускай і расійскай аўтатэхнікі. Аўтапрабег, прысвечаны 68-годдзю перамогі ў другой Айчыннай вайне, пачаўся 7 мая.

Прадэманстравалі наступную тэхніку чацвертага экалагічнага класа: мікрааўтобусы, крамы на колах, аўтамабілі "хуткай дапамогі", фургоны, у тым ліку хлебныя. Ахвотныя каталіся на мадэлях.

Паводле Белстата, на 2012 год каля паловы беларускага тавараЗвароту прыпадала на Еўропу. Але праз мяжу не прапускаюць грузавыя аўтамабілі, якія не адпавядаюць еўрапейскім экалагічным стандартам, таму прадпрыемствы мусяць ім адпавядаць.

У пачатку 90-х гадоў у Еўропе пачалі задумвацца аб негатыўным уздзеянні на навакольнае асяроддзе аўтамабільных выкідаў. Тады ж і прынялі першы экалагічны стандарт Еўра-1, распрацаваны еўрапейскай экалагічнай камісіяй пры ААН. Гэта экалагічны стандарт, які рэгулюе ўтрыманне шкодных рэчываў у выхлапных газах.

Экалагічны клас машыны цікавы не толькі для тых, хто дбае пра навакольнае асяроддзе, але і для ашчадных гаспадароў. Калі ўстанавіць у машыне спецыяльныя фільтры ці нейтралізатары, выдатак паліва будзе больш эфектыўны, а ў атмасферу пачне трапляць значна менш шкодных рэчываў.

Стандарт Еўра-4 існаваў у Еўрасаюзе ад 2005 года, а ў 2009 яго замянілі на больш сучасны стандарт Еўра-5.

**Яўген КАРОСЦІК, Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота на сайце**




■ ВЫСТАВЫ

## "Маляваны рай" у Вілейскім музеі

**ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале імя Сілівановіча праходзіць выстава "Маляваны рай". На ёй прадстаўленыя малюнкі на шкле, маляваныя дываны, куфры, узоры ткацтва, макаткі (невялікія малюнкі на тканіне, якія выкарыстоўваліся для аздаблення ў чырвоным куце хаты).**

Гэта прадметы са збораў Вілейскага краязнаўчага музея і Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту.

– Працы выкананыя ў асноўным ад пачатку і да 50-х гадоў дваццатага стагоддзя, – расказвае навуковы супрацоўнік музея **Надзея Аўдзей**. – Сярод малюнкаў на шкле шмат рамак для фотаздымкаў, выяў кветак і жанчын з імі. Ёсць малюнкі з казачнымі матывамі, а таксама два абразы. Прадстаўлена на выставе і віншавальная паштоўка на шкле.

У выставачнай зале 5 чэрвеня адбылася творчая сустрэча з супрацоўнікамі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту і майстар-клас па роспісе на шкле. Вілейскія дзеці даведаліся пра гэта майстэрства і самі паспрабавалі намаляваць на шкле.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ НАВІНЫ СПОРТУ

## У Мядзеле спаборнічалі медыкі

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры 8 чэрвеня адбылася занальная спартакіяда сярод работнікаў аховы здароўя. Праходзіла яна ў фізкультурна-аздараўленчым цэнтры.**

У спартакіядзе прынялі ўдзел пяць камандаў: Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы, "Мінаблсантранса" і тры з Мядзельскага раёна: Нарацкай і Крывіцкай участковых бальніц і Мядзельскай ЦРБ.

Медыкі спаборнічалі ў валейболе, настольным тэнісе, дартсе, узніманні гіры, більярдзе, конкурсе "штрафны кідок", паведаміў галоўны спецыяліст аддзела па фізічнай культуры, спорце і турызме **Леанід Шыдлоўскі.**

Па выніках усіх відаў перамогу атрымалі прадстаўнікі Нарацкай участковай бальніцы, на другім месцы – каманда Вілейскай ЦРБ, на трэцім – "Мінаблсантранса".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Даша Атрошанка атрымала Гран-пры "Адной зямлі"

## З-за дажджу многія ўдзельнікі спявалі ў пустым амфітэатры

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета пераможцай рэгіянальнага фестывалю-конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні стала маладзечанка.**

Уручэнне ўзнагародаў прайшло ўвечары ў нядзелю, 9 чэрвеня.

Некаторым з выканаўцаў цягам дня даводзілася выступаць перад пустой залай. Калі напачатку гледачы хаваліся пад парасонамі, то на другой палове конкурснай праграмы моцнага дажджу не вытрымалі нават самыя стойкія аматары музыкі.

Залева была такая моцная, што паступова лужыны з'явіліся і на самой сцэне. Тэхнічныя работнікі пачалі перасоўваць калонкі і іншую апаратуру, хаваючы яе ад дажджу. Але сярэдзіна сцэны заставалася сухой – і фестываль працягваўся.

Відавочна, што "Адна зямля" значна прайграла, бо праходзіла паміж Нацыянальным фестывалем і выпускным балем. Нават у выхадны дзень стомленыя святкаваннямі гараджане не спяшаліся да амфітэатра.

Рэпертуар сёлетняга фестывалю быў шматмоўным. Гучалі песні на беларускай, рускай, украінскай, англійскай, французскай, італьянскай мовах. Кожны з удзельнікаў прадстаўляў па дзве кампазіцыі. Некаторыя з песень прагучалі не адзін раз – іх выбралі для сябе адразу некалькі спевакоў.

Увечары, калі пераможцы кожнай з узроставых груп яшчэ раз выконвалі свае песні, усе яны выбралі рускамоўныя кампазіцыі.

Песні **Дашы Атрошанкі**, уладальніцы Гран-пры, вылучаліся сярод іншых тым, што іх чулі ўпершыню. Маці Дашы, паэтэса, кампазітарка **Тацяна Атрошанка**, дапамагае дачцэ рыхтаваць песні да выступленняў. Тое, што спявае Даша, немагчыма пачуць ад іншага ўдзельніка.

**Даша двойчы спаборнічала ў адборы на дзіцячае "Еўрабачанне", а летась трапіла ў дзясятку фіналістаў.**

Песню "А-а", з якой дзяўчынка выступіла на "Адной зямлі", яна напісала разам з мамай. Менавіта яе спявала ў фінале адбору на дзіцячае "Еўрабачанне".

Сваімі адчуваннямі пасля перамогі дачкі падзялілася з "РГ" мама Дашы Тацяна Атрошанка:

– Даша выступала з тэмпературай, што не стала для яе вялікай перашкодай. Гэта чыстая перамога, якой я вельмі рада. Музыка для яе больш, чым проста захапленне. Яна стала маленькім жыццём, таму што Даша асобна без музыкі сябе не ўяўляе. Сонечныя песні Дашы вельмі пасуюць.



Даша падчас аб'яўлення вынікаў не стрымлівала захаплення. Пераможцу падтрымаў начальнік аддзела культуры Маладзечанскага райвыканкама Аляксандр Рамановіч.

Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Да моманту ўручэння ўзнагародаў надвор'е наладзілася, і гледачы паспелі падцягнуцца ў парк.

Напрыканцы юнакі і дзяўчаты праспявалі гімн фестывалю "Адна зямля" і разам з гледачамі пабачылі святочны салют. На светлым небе разгледзець яго было складана, але прысутныя віталі салют воплескамі.

У наступным годзе "Адна зямля" запросіць гасцей у Валожын.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## Імёны лепшых сёлетняй "Адной зямлі"

**Месцы у дадатковых намінацыях размеркаваліся наступным чынам:**

Творчая надзея – **Віталь Рогач** (Вілейка)

Прыз глядацкіх сімпатый – **Аляксандра Корсак** (Вілейка)

Лепшае выкананне песні – **Вікторыя Ярмак** (Астравец)

Артыстызм – **Анастасія Пілецкая** (Астравец)

Асаблівы сцэнічны вобраз – **Вікторыя Гапанёнак** (Маладзечна)

Высокая сцэнічная культура – **Татэвік Грыгаран** (Валожын)

Патрыятызм – **Вікторыя Багінская** (Мядзел)

Эмацыйнае выкананне – **Анастасія Ластачкіна** (Вілейка)

Якасць музычнага суправаджэння – **Ульяна Кузняцова** (Маладзечна)

### Лепшыя ў сваіх узроставых групах

Першая ўзроставая група (9-13 гадоў)

1. **Артур Ількевіч** (Ашмяны)
2. **Кацярына Шыманоўская** (Смаргонь)
3. **Максім Гаўрылкевіч** (Смаргонь)

Другая ўзроставая група (14-17 гадоў)

1. **Вадзім Авіжыч** (Ашмяны)
2. **Марыя Райкевіч** (Вілейка)
3. **Дыяна Бажко** (Маладзечна)

Трэцяя ўзроставая група (18-23 гадоў)

1. **Наталля Ламака** (Маладзечна)
2. **Кацярына Барташэвіч** (Вілейка)
3. **Алена Ранцава** (Ашмяны)

Чацвертая ўзроставая група (24-30 гадоў)

1. **Раман Брыжынскас** (Маладзечна)
2. **Тацяна Макарэвіч** (Вілейка)
3. **Андрэй Луд** (Смаргонь)

Гран-пры фестывалю – **Дар'я Атрошанка**

**Аддзел інфармацыі.**



Карэспандэнтка "РГ" Зоя Хруцкая (справа) уручае прыз глядацкіх сімпатый Аляксандры Корсак з Вілейкі. Пасярэдзіне стаіць старшыня журы Алег Елісеенкаў.

Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

**Маладзечанцаў найбольш сярод уладальнікаў Гран-пры**

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Астравец** | | | | | | | | | |
| **Ашмяны** | Людміла Сінкевіч, 2001 | | | | | | | | |
| **Валожын** | | | | | | | | | |
| **Вілейка** | Казімір Таўстыка, 2002 | Алеся Супрановіч, 2003 | Наталля Салава, 2004 | Вікторыя Ількевіч, 2008 | | | | | |
| **Маладзечна** | Дзмітры Мінько, 1999 | Дар'я Урызчанка, 2000 | Алеся Кульша, 2005 | Аляксандр Салаўёў, 2006 | Віктар Выбарнаў, 2007 | Вольга Ільіч, 2010 | Анастасія Апанасенка, 2011 | Артур Міхайлаў, 2012 | Дар'я Атрошанка, 2013 |
| **Мядзел** | | | | | | | | | |
| **Смаргонь** | Дзяніс Пацэвіч, 2009 | | | | | | | | |





Артур Ількевіч, Ашмяны


Аляксандра Корсак, Вілейка


Уладзіслава Коршун, Мядзел


Вадзім Авіжыч, Ашмяны


Дар'я Атрошанка, Маладзечна


Вольга Бабойць, Астравец


Вольга Вішнеўская, Смаргонь


Вераніка Гапанёнак, Маладзечна


Яніна Гарбар, Маладзечна


Вікторыя Багінская, Мядзел


Дыяна Бажко, Маладзечна


Кацярына Барташэвіч, Вілейка


Брыжынскас Раман, Маладзечна


Вось так эмацыйна дзяўчаты падтрымлівалі спевакоў, якія ім больш за ўсё падабаліся.



Падвядзенне вынікаў і фінальнае ўзнагароджанне ўдзельнікаў "Адной зямлі".


Яна Яфрэмава, Валожын


Ульяна Кузняцова, Маладзечна


Вікторыя Ярмак, Астравец


Дар'я Крывіцкая, Астравец


Крышаловіч Ксенія, Ашмяны


Максім Гаўрылкевіч, Смаргонь


Татэвік Грыгаран, Валожын


Вікторыя Гурыновіч, Мядзел


Эдуард Кулагін, Смаргонь


Марыя Лайкоўская, Смаргонь


Наталля Ламака, Маладзечна


Анастасія Ластачкіна, Вілейка


Андрэй Луд, Смаргонь


Таццяна Макарэвіч, Вілейка


Дар'я Пагуа, Маладзечна


Аліна Пяткевіч, Ашмяны


Анастасія Пілецкая, Астравец


Марыя Райкевіч, Вілейка


Алена Ранцава, Ашмяны


Віталь Рогач, Вілейка


Вікторыя Стэрнад, Мядзел


Кацярына Шыманоўская, Смаргонь


Юлія Івашка, Астравец

Фота Аляксандры ПАРАХНІ і Вольгі ЮРКЕВІЧ.

ЮБІЛЕЙ

# Навучэнцы каледжа становяцца чэмпіёнамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж сёлета адзначае 55-годдзе. Сярод знакамітых выпускнікоў і супрацоўнікаў каледжа нямала і спартсменаў.**


Фота з архіва Наталлі СЯНЬКО.

Для многіх навучэнцаў валейбол — любімы від спорту.

Навучэнцы маюць усе магчымасці для развіцця спартыўных здольнасцяў. Паколькі спартсменамі не нараджаюцца, а становяцца, асабліва важна месца таленавітых трэнераў.

## Калі выкладчык выдатны – прадмет будзе любімым

Дырэктар навучальнай установы **Дзмітры Богдан**, малады таленавіты кіраўнік, лічыць спорт неад'емнай часткай жыцця каледжа.

Цяпер у каледжы працуюць тры выкладчыкі фізічнай культуры. Гэта **Іван Зянько**, **Сяргей Іўчык** і **Андрэй Аракчэеў**.

Навучэнцы з радасцю ідуць на ўрокі фізічнай культуры. Да таго ж для большасці юнакоў і дзяўчат фізічная культура з'яўляецца любімым прадметам. Яны прызнаюцца, што любоў да спорту ім прывіваюць выкладчыкі, якія таксама не ўяўляюць без яго ніводнага дня.

Іван Зянько, ветэран працы ў каледжы, шчыры і адкрыты чалавек, стаяў ля вытокаў спартыўнай славы навучальнай установы.

– Іншага я б сабе і не пажадаў бы, – сказаў ён. – І ў сваім жыцці не хацеў бы мяняць нічога.

З ім згодныя і яго калегі.

Выкладчыкам хочацца шчыра падзякаваць за іх працу, пажадаць здароўя ім і іх сем'ям. І, безумоўна, дастойных навучэнцаў!

## У музеі каледжа – дзясяткі ўзнагарод

Для таго, каб займацца спортам, у каледжы створаная сучасная спартыўная база. Маецца ўладкаваны стадыён з бегавымі дарожкамі, з валейбольнай і баскетбольнай пляцоўкамі, дзве спартыўныя залы.

Навучэнцы могуць выбраць адну з сямі спартыўных секцый: баскетбола, валейбола, лёгкай атлетыкі, настольнага тэніса, дзюдо, шашак, гіравога спорту.

Традыцыйна ладзяцца ў каледжы і масавыя спартыўныя мерапрыемствы: дні здароўя, лёгкаатлетычныя кросы, спартакіяды, турыстычныя злёты, спартыўныя сустрэчы.

Да таго ж ніводная спартыўная падзея вобласці не праходзіць без удзелу камандаў каледжа. Прызавыя месцы навучэнцы прывозілі са спаборніцтваў па ўсіх відах спорту. На рахунку каледжа і перамогі на рэспубліканскім узроўні.

Дзясяткі спартыўных кубкаў, дыпломаў і грамат цяпер упрыгожваюць музей і выставу каледжа.

## Міжнародныя перамогі каледжа пачаліся ў 80-я гады

За гады існавання каледжа тут падрыхтавалі не толькі спецыялістаў па спецыяльнасцях, але і выдатных спартсменаў. Сярод выпускнікоў – 21 майстар спорту, амаль сотня кандыдатаў у майстры спорту.

Некаторыя навучэнцы выходзілі і на міжнародны ўзровень, прадстаўляючы нашу краіну за мяжой.

Яшчэ ў 80-я гады **Дзяніс Гіль** і **Павел Соніч** удзельнічалі ў лёгкаатлетычным кросе ў Бельгіі і Германіі.

Навучэнец **Аляксандр Сяроў** у 1994 годзе стаў удзельнікам чэмпіянату свету па кросе ў Будапешце (Венгрыя), а **Віктар Кулаковіч** у 1998 годзе ўдзельнічаў у такіх жа спаборніцтвах ў ЮАР.

Шэсць гадоў таму, у 2007 годзе, **Аляксандр Пажукоў** заняў другое месца ў 8-м Еўрапейскім першынстве па суднамадэльным спорце.

А **Сяргей Тонкавіч** пяць разоў прымаў удзел у чэмпіянатах свету па гіравым спорце і двойчы станавіўся чэмпіёнам свету.

Некаторыя выпускнікі каледжа і цяпер прысвячаюць сваё жыццё спорту. Майстар спорту **Сяргей Карыцька** гуляе ў зборнай Рэспублікі Беларусь па футболе. А **Іван Яцыновіч**, майстар спорту па дзюдо, прывёў у каледж двух сваіх сыноў, якія таксама займаюцца спортам і, магчыма, змогуць у спорце паказаць такія ж выдатныя вынікі, як і бацька.

**Віталь Шаўлюк** стаў прызёрам чэмпіянату Еўропы па дзюдо. У чэмпіянаце свету, што праходзіў у 2010 годзе ў Парыжы (Францыя), ён упэўнена ўзяў чацвертае месца.

**Толькі па дзюдо каледж падрыхтаваў дзесяць майстроў спорту.**

У гэтым выкладчыкам фізічнай культуры дапамагае кіраўнік секцыі дзюдо **Вячаслаў Дзеравянка**.

## Мінулы навучальны год не абышоўся без перамог

Сённяшнія навучэнцы працягваюць лепшыя спартыўныя традыцыі каледжа. Гэты навучальны год быў шчодрым на ўзнагароды. Юнакі і дзяўчаты прымалі ўдзел у спартакіядах па валейболе, лёгкай атлетыцы, лыжных гонках, баскетболе, настольным тэнісе, зімнім і летнім шматгаборстве "Здароўе", плаванні, лёгкаатлетычным кросе.

Неверагодна, але на абласных спаборніцтвах па ўсіх названых відах спорту каманды каледжа былі толькі першымі!

Шаснаццаць разоў яны падымаліся на вышэйшую прыступку ў вобласці, пяць разоў уваходзілі ў тройку прызёраў па рэспубліцы. Дзяўчаты ўпэўнена занялі першае месца ў рэспубліцы па лёгкаатлетычным кросе. Лепшымі спартсменамі каледжа па валейболе 2012-2013 гадоў прызнаны **Дзмітры Кароль**, **Вадзім Суднікові**ч, **Аляксандр Сомаў**, **Аляксандра Жыгарыс**, **Алеся Козел**, **Надзея Вінслаўовіч**.

У мнагаборстве няма роўных **Арцёму Голубеву**, **Кірылу Малько**, **Паўлу Шаламаву** і **Дзмітрыю Лобачу**.

Лепшымі спартсменамі па лёгкай атлетыцы сёлета сталі **Веранiка Валковіч** (трохкратная чэмпіёнка РБ), **Уладзіславу Сычоў** (двухкратны чэмпіён РБ), **Арцём Еслін**, **Ганна Капцюг**, **Анастасія Кулёнак**, **Таццяна Вераценнік**. Трое дзяўчат сталі двухкратнымі чэмпіёнкамі Беларусі па лёгкай атлетыцы.

У навучэнцаў наперадзе новыя спаборніцтвы, турыстычны злёт. А таксама – новыя перамогі і новыя рэкорды. Хочацца пажадаць ім цярпення, натхнення і веры ў свае сілы. І няхай яшчэ не адзін раз яны падымуцца на самыя высокія прыступкі ў спорце!

**Наталля СЯНЬКО.**

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# "Для перамогі камандзе не хапіла толькі поспеху. Усё астатняе было"

**МАЛАДЗЕЧНА. Трэці дамашні матч "Маладзечна" скончыўся паражэннем 4:6. Маладзечна 8 чэрвеня прымала ў гасцях клуб "Баранавічы".**

Па трыбунах было відаць, што сёння ў горадзе праходзіць фестываль. У параўнанні з мінулымі дамашнімі матчамі, на стадыёне людзей было відавочна менш.

Лік у гульні адкрылі ўжо на 7-й хвіліне. Узяццем варот скончылася атака баранавіцкіх футбалістаў. Маладзечанцы здолелі зраўняць лік на 18-й хвіліне. Аўтарам першага гола ў выкананні маладзечанцаў стаў **Андрэй Шаблінскі**.

Літаральна праз некалькі секунд ён мог аформіць дубль, але мяч не патрапіў у пустыя вароты.

У другім тайме каманда з Баранавічаў перахапіла ініцыятыву ў гульні, але маладзечанцы не здаваліся і здолелі паменшыць адставанне ў ліку.

У саставе "Маладзечна" галамі адзначыліся **Дзяніс Жыліч** і двойчы – **Юры Бугай**.

Для маладзечанцаў паражэнне стала другім запар.

Наступны матч каманда правядзе на выездзе 16 чэрвеня ў Мінску. А 23 чэрвеня на маладзечанскім гарадскім стадыёне сустрэнецца з камандай "Орша".

Для "РГ" гульню пракаментаваў дырэктар клуба "Маладзечна-2013" **Аляксандр Любанец**:

– Матч атрымаўся вельмі эмацыйным, і мне гэта спадабалася. Спадабалася і тое, што нашы футбалісты змагаліся да канца. І нават калі на полі было 8 гульцоў, сабралі волю ў кулак і змаглі забіць. Гэта гаворыць аб тым, што ў нашай камандзе сабраліся сапраўдныя змагары.

**– Чаму каманда ў другім тайме прапусціла так шмат галоў?**

– Думаю, што з-за памылак асобных футбалістаў, калі некаторыя моманты не былі дапрацаваныя да канца.

**– Чаго не хапіла футбалістам для таго, каб зраўняць лік?**

– Цяпер я сказаў бы, што толькі поспеху. Усё астатняе ў іх было.

**– Ці адчувалася па трыбунах, што ў горадзе праходзіць фестываль?**

– Вядома, фестываль нам зусім не на руку. Сродкі, якія мы атрымалі ад сённяшняй гульні, вельмі маленькія, а мы шмат у чым ад іх залежныя. Сёння іх не хопіць нават на тое, каб аплаціць за арэнду стадыёну.

Больш фота і відэа на сайце.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

НАВІНЫ

# У валейбол – на пляжы

**МЯДЗЕЛ.** У суботу, 8 чэрвеня, адбыліся гульні папярэдняга этапа чэмпіянату Мінскай вобласці па пляжным валейболе. Спаборніцтвы праходзілі на пляцоўцы на гарадскім пляжы

У фінале каманда Мядзел-1 перамагла валейбалістаў з Вілейкі. У складзе пераможцаў гулялі **Андрэй Русак** і **Аляксандр Сторублёў**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Момант гульні.

АДПАЧЫНАК

# Лета. Нарач. Турызм

**МЯДЗЕЛ. Як адпачыць дзікуном на Нарачы? Што цікавага паглядзець падчас адпачынку?**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Возера Нарач.

Пра гэта ішла гаворка з намеснікам генеральнага дырэктара Нацыянальнага парку "Нарачанскі" па навуковай рабоце **Валерыем Люштыкам.**

**– Што Нацыянальны парк можа прапанаваць турысту-дзікуну?**

– Для аматараў актыўнага адпачынку абсталявана 16 турыстычных стаянак. Размешчаныя яны на ўзбярэжжах дзевяці азёр. Там альтанкі, вогнішчы, дровы, на некаторых ёсць пітная вада. Асобна адзначу турстаянку на аўтакемпінгу "Нарач", дзе больш за 20 месцаў для адпачынку. Знаходзяцца яны на адлегласці адно ад аднаго. Да ўсяго тут яшчэ ёсць месца для паркоўкі аўтамабіля.

**– Колькі каштуе адпачынак на такіх стаянках?**

– Суткі знаходжання на большасці з іх абыдуцца ў 15 тысяч рублёў з чалавека, а на стаянках "Антанізберг" і "Качаргі" – 25 тысяч рублёў, на аўтакемпінгу "Нарач" – 30 тысяч рублёў. Да гэтага ж з гасцей Нацыянальнага парку "Нарачанскі" спаганяецца курортны збор – 10 тысяч рублёў.

**– На ваш погляд, якія мясціны і аб'екты павінен наведаць цікаўны турыст на Мядзельшчыне?**

– Гэта залежыць ад яго захапленняў. Калі яму цікавая гісторыя і архітэктура, то варта пабачыць архітэктурную спадчыну Нарачанскага краю. Гэта храмы ў Будславе, Засвіры, Шэметаве ды іншыя, сядзіба ў Камарове, рэшткі сядзібна-паркавых комплексаў у Альшэве, Шэметаве.

Калі цікавяць ландшафты і расліны, то можам прапанаваць вандроўку ў "Парк рэдкіх раслін" на паўвостраве Чараўкі. Тут захаваўся ўнікальны ўчастак, дзе расце больш за дзесяць рэдкіх і знікаючых відаў раслін, якія занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь і ахоўваюцца ў Еўропе. Таксама можна наведаць дэндрасад каля вёскі Мікольцы. Яго калекцыйны фонд налічвае каля 400 відаў розных раслін, там створаны музей лесу.

Каму цікавая ваенная гісторыя – у Нарачанскім краі нямала аб'ектаў, якія засталіся ад Першай сусветнай. Напрыклад, рэшткі бетонных дотаў, складоў боепрыпасаў, а таксама траншэі і г. д.

**– Які ж самы папулярны аб'ект у турыстаў?**

– Гэта экалагічная сцежка ў прыродным комплексе "Блакітныя азёры". Адпачынак "два ў адным". Можна прагуляцца па экалагічнай сцежцы, дзе абсталяваныя назіральныя пляцоўкі, устаноўленыя драўляныя скульптуры, палюбавацца на азёры, а потым правесці час на якімсьці з трох месцаў для адпачынку. Праўда, трэба памятаць, што на месцах адпачынку нельга ставіць палаткі, раскладваць вогнішчы.

**– На сайце Нацыянальнага парку ёсць раздзел, прысвечаны аглядавым пунктам...**

– Вылучылі трынаццаць такіх умоўных месцаў, адкуль можна пабачыць краявіды азёр і ландшафтаў, якія ўражваюць, зрабіць добрыя здымкі.

**– А якія аглядавыя пункты параіце наведаць?**

– Мне найбольш падабаюцца пункты ўздоўж лініі фронту Першай сусветнай вайны – ля вёсак Пасынкі і Целякі. З іх адкрываецца такі прыгожы від на наваколле – вялікі прастор, бачна некалькі азёр: Нарач, Мястра, Баторына і Мядзел. Недарэмна ж падчас той вайны немцы захапілі гэтыя вышыні, абсталявалі доты. Там можна палюбавацца не толькі на прыгожыя краявіды, а і паглядзець на рэшткі фартыфікацый таго часу. Яшчэ на гэтай лініі фронту пункты каля вёскі Пасашкі, Расохі, на паўвостраве Дубавое.

Цяпер многія вандруюць з GPS-навігатарамі. Для іх зручнасці на сайце Нацыянальнага парку змясцілі каардынаты аглядавых пунктаў. Таксама ёсць каардынаты турыстычных стаянак. А з інтэрактыўнай карты рыбака, даведніка "Водныя рэсурсы Нацыянальнага парку "Нарачанскі" ахвотныя могуць атрымаць больш інфармацыі пра азёры ды рэкі, умовы рыбалкі.

**– Што можаце прапанаваць турысту, які хоча адпачыць з камфортам?**

– Ён можа спыніцца ў гасцінічным комплексе "Нарач", гасцініцы і модулі аўтакемпінга "Нарач", гасцявым катэджы, на базе адпачынку "Пронькі" – і гэта толькі названыя аб'екты адпачынку Нацпарку.

**– Гляджу, прапануеце не толькі пазнавальныя ці экскурсійныя туры, а нават і гастранамічныя...**

– Так. Робім больш разнастайнымі нашы прапановы. Падчас гастранамічнага тура турысты могуць адведаць фірменныя мясныя і рыбныя стравы – юшку з вугра, традыцыйнага фаршыраванага шчупака і многія іншыя. Збольшага такой прапановай карыстаюцца для святкавання юбілеяў, вяселляў.

**Інтэрактыўную карту турстаянак глядзіце на сайце**




**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**У наступнай публікацыі раскажам пра магчымасці адпачынку на пляжах і пра тое, якая сітуацыя на возеры Нарач з цэркарыёзам – так званым свербам купальшчыка.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | |
| | 5 | | 7 | | | | | 4 |
| 1 | 7 | 2 | | 4 | | | | |
| | 8 | 5 | | 3 | 6 | | | 1 |
| 3 | | 4 | | | | 8 | | 9 |
| 7 | | | 9 | 8 | | 6 | 4 | |
| | | | | 6 | | 5 | 9 | 8 |
| 5 | | | | | 3 | | 2 | |
| | 1 | | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя **"Хлапечнік: Частка III"**, (ЗША, 2013, для гледачоў, якім за 18 год)
14-20 чэрвеня – у 21.00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Меладрама **"Вялікі Гэтсбі"**, 3D (ЗША, Аўстралія, 2013, 2 серыі, для гледачоў, якім за 16 год)
14 чэрвеня – у 18.00
15 чэрвеня – у 15.00, 18.00
16 чэрвеня – у 15.00, 18.00
17 чэрвеня – у 18.00
18 чэрвеня – у 18.00
19 чэрвеня – у 18.00
20 чэрвеня – у 15.00, 18.00
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў.

Прэм'ера першага беларускага поўнаметражнага анімацыйнага фільма! **"Прыгоды Несцеркі"** (2012, без узроставых абмежаванняў)
14 чэрвеня – у 16.30
15 чэрвеня – у 13.30
Кошт білета – 10 000 рублёў

Прыгодніцкі экшн **"Жалезны чалавек 3"**, 3D (ЗША, Кітай, 2013, 2 серыі, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
16 чэрвеня – у 12.00
19 чэрвеня – у 15.00
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыйныя прыгоды **"Снежная каралева"**, 3D (Расія, 2012)
14 чэрвеня – у 17.30
15, 16 чэрвеня – у 16.00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Меладрама, камедыя **"Вельмі небяспечная штучка"** (ЗША, 2012)
14 чэрвеня – у 19.30, 21.30
15, 16 чэрвеня – у 17.30. 19.30, 21.30
17 чэрвеня – у 21.30
18-20 чэрвеня – у 19.30, 21.30
Кошт білета – 25 000 рублёў.
Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**ГАРАСКОП (14-20 ЧЭРВЕНЯ)**


**Авен.** Калі вы зоймецеся важнымі справамі і вырашэннем актуальных праблем, то зможаце шмат чаго дабіцца, а калі будзеце патураць сваім капрызам, то пасля пашкадуеце пра ўпушчаныя магчымасці.


**Блізняты.** Навучыцеся разумна дзяліць час паміж работай і адпачынкам. Як перарасход энергіі, так і застой (ляжанне на канапе) негатыўна ўплываюць на ваша здароўе.


**Цялец.** Добра прааналізуйце ўласныя адносіны, і нічога не ўпусціце, каб пасля не прыйшлося траціць час на ўхіленне праблем.


**Рак.** Прысвяціце выхадныя сабе, нарэшце вы зможаце ажыццявіць тое, аб чым марылі не адзін тыдзень.


**Леў.** Вас чакае ўзнагарода за добрыя справы і ўчынкі, якія вы здзейснілі дзеля іншых людзей. Не дазваляйце свайму акружэнню абмяжоўваць вашу свабоду.


**Дзева.** Падзяліце свае справы на маленькія задачы і няспешна выконвайце іх. Так вы справіцеся нашмат хутчэй, нават калі спярша аб'ём здасца непасільным.


**Шалі.** Хаця вашы мары і рэальнае жыццё здаюцца вам далёкімі адно ад аднаго, вы можаце і нават павінны ўвасабляць у жыццё свае планы. Цяпер вы будзеце кіраваць іншымі людзьмі, нават калі афіцыйна і не займаеце пасады начальніка. Да вашых слоў будуць прыслухоўвацца, і амаль усе вашы просьбы і пажаданні будуць выкананыя.


**Скарпіён.** Нічога асаблівага не адбудзецца. Але вас будзе перапаўняць радасць настолькі, што яна зацьміць усё на свеце.


**Стралец.** Часам вы дазваляеце рэзкія выказванні і з'едлівыя заўвагі. Паверце, гэта не дадае вам абаяння, не робіць вас больш прывабнымі і сімпатычнымі ў вачах навакольных.


**Казярог.** Адкладзіце прынцыпы сур'ёзнага рашэння хаця б на тыдзень, а пакуль усё ўзважце: магчыма, вы кардынальна зменіце сваё меркаванне пра сітуацыю, якая склалася.


**Вадалей.** Будзьце ўважлівыя на дарозе, адмоўцеся ад далёкіх падарожжаў і рызыкоўных мерапрыемстваў.


**Рыбы.** Лепшымі вашымі дарадчыкамі стануць інтуіцыя і фантазія. Але гаварыце цішэй: надта шмат вакол цікаўных вушэй.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт

erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

Рэгіянальная газета

## ■ НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 / +24 | | +14 / +21 | | +13 / +22 | | +16 / +21 | |
| | 742 | ↗ 6 | 744 | ↘ 1 | 737 | → 3 | 742 | → 7 |
| Вільня | +15 / +22 | | +11 / +17 | | +9 / +21 | | +13 / +19 | |
| | 749 | ↗ 7 | 752 | → 3 | 750 | ↗ 4 | 750 | → 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.37
Захад 21.49
Даўжыня дня 17.12

Усход 11.50
Захад 00.24
Квадра 2

**15 чэрвеня, субота**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +16 / +22 | 751 | ↘ 2 |
| Гродна | +10 / +18 | 753 | ↓ 2 |
| Мінск | +14 / +21 | 741 | → 4 |
| Магілёў | +14 / +22 | 749 | ↓ 3 |
| Брэст | +12 / +17 | 752 | ↙ 2 |
| Гомель | +15 / +27 | 751 | ↙ 0 |

## ■ ПРЫКМЕТЫ

- У чэрвені ўбачыць гаспадар, што Бог даў у дар.
- Душна на світанні – да непагадзі.
- Певень запяе ў поўдзень – будзе перамена надвор'я.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Выпускнік Маладзечанскага прафесійна-тэхнічнгага каледжа, якому ўручаў медаль Уга Чавес. Якой пабачылі Венесуэлу маладзечанцы?**

## ■ ПРОСТА АНЕКДОТ

Аб'ява: "Прапаў вельмі разумны сабака! Шарык! Калі ты чытаеш гэту аб'яву, патэлефануй, калі ласка, дадому. Твой гаспадар".

***

У псіхіятра:

– Доктар, мяне да вас муж паслаў.

– Што з вамі?

– Кажа, што я на бліны звар'яцела.

– Ну і што? Я таксама бліны люблю...

– Праўда? Ой, прыходзьце, доктар, у госці – у мяне іх поўны гардэроб!

***

– Што робіш?

– Бліны ем... з варэннем...

– Ты ж быццам на дыеце была?

– А я іх гарбатай для пахудзення запіваю.

***

– Люся, якая ў цябе памада для вуснаў прыгожая!

– Ды гэта ж я бліны ела...



■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якія прафесіі ў Беларусі самыя запатрабаваныя?

**Таццяна Бараноўская, педагог:**

– Самыя запатрабаваныя, на мой погляд, прафесіі, звязаныя з будаўніцтвам. Самы ж вялікі заробак у банкаўскіх работнікаў, калі б мяняла працу, то пайшла б у гэту сферу.

**Ала Грышчук, спецыяліст пенсійнага аддзела:**

– Будаўнікі самыя запатрабаваныя, магчыма, рабочыя на заводах. Заробак жа добры ў банкаўскіх работнікаў, хаця залежыць ад банка, вядома. У зваршчыкаў, мабыць, таксама нядрэнны, калі яшчэ і стаж не малы.

**Яніна Вайцяховіч, пенсіянерка:**

– Лічу, што самыя запатрабаваныя настаўнікі, медработнікі, прадаўцы. Няблага зарабляюць у ахове, міліцыі, работнікі чыгункі.

**Настасся Каласоўская, медработнік:**

– Больш за ўсіх зарабляюць будаўнікі, каб ведала раней, пайшла б у прарабы. Самы малы заробак у медработнікаў, яны ж і самыя запатрабаваныя. Таксама цырульнікі, майстры па манікюру.

**Мікалай Шэмет, чыгуначнік:**

– Самыя запатрабаваныя, безумоўна, будаўнікі ўсіх спецыяльнасцяў, яны ж з банкірамі самыя высокааплатныя. Нармальны заробак, каб пражыць, на месяц павінны быць каля 8 мільёнаў.

**Аляксандр Куляшоў, прараб:**

– Людзі, звязаныя з камунальнай гаспадаркай і будаўніцтвам, самыя запатрабаваныя ў Беларусі. Будаўнікі ж маюць і самую высокую аплату разам з юрыстамі. Прымальны заробак у месяц павінен быць каля 5 мільёнаў рублёў.

**Сяргей Шафаловіч, кіроўца "хуткай дапамогі":**

– Дрэваапрацоўшчыкі і будаўнікі самыя запатрабаваныя. Плацяць больш за ўсіх работнікам пракуратуры і міліцыі. Прымальны заробак на аднаго чалавека ў месяц павінны быць каля 8 мільёнаў рублёў.

**Падрыхтаваў Яўген КАРОСЦІК.**


Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6250 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 24 (946) 14.06.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 527. Падпісана ў друк у 10.00 13.06.2013.

**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.